Год III. Люты 1934 г. № 2 (26).

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты єси Петръ,
й на семъ камени созижду церковь мою. Мата. 16. 18.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Люты 1934 г. № 2 (26).

# Нядзеля аб Блудным Сыне.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*

### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ 15, 11—32; ЗАЧАЛА 79.*

11. Сказаў Госпад гэтую прыповесьць: У аднаго чалавека былі два сыны.

12. І сказаў малодшы з іх бацьку: Ойча, дай мне часьць, належную мне: І падзяліў ім маемасьць.

13. А пасьля нядоўгага часу малодшы сын, сабраўшы ўсё, пайшоў у далёкую старану і там змарнаваў маемасьць сваю, жывучы распусна.

14. Калі-ж ён усё пражыў, паўстаў у той краіне вялікі голад, і ён папаў у недастатак

15. І пашоўшы, прыстаў да аднаго гаспадара тае стараны: а ён паслаў яго на свой фальварак пасьвіць сьвіньні.

16. І жадаў насыціць сябе стручкамі, што елі сьвіньні, але ніхто яму не даваў.

17. А ўвайшоўшы ў сябе, сказаў: Колькі наймітаў у айца майго маюць лішку хлеба, а я тут з галаду прападаю!

18. Устану, пайду да бацькі свайго і скажу яму: Ойча! я саграшыў перад небам і перад табою

19. І ўжо я нявартьі, каб называцца тваім сынам, прымі мяне, як аднаго з наймітаў тваіх

20. І ўстаўшы, пайшоў да свайго айца. А калі ён быў яшчэ далёка, убачыў ягоны бацька і зьлітаваўся, а прыбегшы, кінуўся яму на шыю і цалаваў яго.

21. А сын яму сказаў: Ойча, я саграшыў перад небам і перад табою і ўжо я нявартьі, каб называцца тваім сынам.

22. А бацька сказаў сваім слугам: Прынясеце найпярвейшую адзежу і адзеньце яго, і дайце персьцень на ягоную руку і абутак на ногі

23. І прывядзеце тучнае цялё і закалеце, і будзем есьці і весяліцца.

24. Бо гэты сын мой быў памёршы і ад'жыў; і быў прапаўшы, але знайшоўся. І пачалі весяліцца.

25. А старшы ягоны сын быў на полі: а калі, ідучы, прыблізіўся да дому, пачуў сьпевы і скокі.

26. А паклікаўшы аднаго з прыслужнікаў, спытаўся: Што гэта такое.

27. А той яму сказаў: Прышоў твой брат, дык бацька твой закалоў тучнае цялё, бо яго сустрэў здаровым.

28. Ён-жа разгневаўся і не хацеў увайсьці. А ягоны бацька, выйшаўшы, пачаў яго прасіць.

29. Але ён адказаў свайму бацьку: Вось я служыў табе столькі гадоў і ніколі не пераступіў твайго прыказаньня, але ты ня даў мне ніколі і казьлянящі, каб я мог павесяліцца з сваімі таварышамі.

30. Калі-ж прыйшоў гэты твой сын, каторы змарнаваў з распусьніцамі сваю маемасьць, ты закалоў яму тучнае цялё.

31. Але ён сказаў: Сынок, ты заўсёды са мною, а ўсё маё—тваё ёсьць.

32. Ды і трэба было павесяліцца і цешыцца, бо гэты твой брат быў памёршы і ад'жыў; і быў прапаўшы, але знайшоўся.

---

*«Устану, пайду да бацькі свайго і скажу яму: ойча, я саграшыў перад небам і перад табою».*
(*Лука 15, 18*).

Сьвятая Царква, жадаючы нас падрыхтаваць да пакуты ў часе вялікага посту, перад пачаткам посту пабуджае нас да пакоры праз эвангельле аб мытару і фарысэі, а па-

сьля, каб прадставіць нам вялікую міласьць Божую, чытае нам эвангельле аб блудным сыне.

У аднаго айца было два сыны. Аднаго разу малодшы прыходзіць да свайго айца ды кажа: **„Ойча, дай мне часьць маемасьці, належную мне“** (Лук. 15, 12). Эвангельле ня кажа нам аб тым, як добры айцец стараўся адвясьці свайго ўмілаванага сына ад нядобрага намеру, аднак напэўна гэта было. Не хацеў добры айцец сілком затрымліваць пры сабе свайго сына і падзяліў ім маемасьць. **„А пасьля нядоўгага часу, малодшы сын, сабраўшы усё, пайшоў у далёкую старану і там змарнаваў маемасьць сваю, жывучы распусна“** (Лук. 15, 13).

Пасьля ведаем, што сталася з гэтым калісьці багатым чалавекам: не знайшоў ніякага лепшага занятку, а жыць трэба; каб ратаваць сябе ад галоднае сьмерці, згадзіўся за сьвінапаса ў аднаго гаспадара.

Вось да чаго дайшоў сын марнатраўны: абдзёртая на ім вопратка, адчувае страшэнны голад, а няма чым яго заспакоіць, ад гаспадара дазнае зьдзекі ды паняверку.

Бедны чалавек, да чаго давяло яго распуснае жыцьцё!

Аднаго разу, пасучы сьвіньні, сеў на камень ды задумаўся. Прыпомніў сабе бацькаўскі дом, як яму добра жылося ў роднага бацькі, падумаў: **„Колькі наймітаў у айца майго маюць лішку хлеба, а я тут з голаду прападаю“.** (Л. 15, 17). Зразумеў блудны сын сваё палажэньне ды справядліва ацаніў. Яго беднае сэрца ахапіў шчыры жаль, нашто так зрабіў, сам вінаваты ў сваёй долі. Ахапіла таксама яго сэрца туга па добрым бацьку, зразумеў толькі цяпер дабрату яго айцоўскага сэрца. У збалелае яго сэрца ўступіла касулька надзеі: а мо' не адкіне мой айцец. **„Устану, пайду да бацькі свайго і скажу яму: Ойча, я саграшыў перад небам і перад табою, і ўжо я няварты называцца тваім сынам; прымі мяне, як аднаго з наймітаў тваіх“** (Л. 15, 18—19).

Як задумаў, так і зрабіў: усё кінуў ды пайшоў да бацькі свайго. Яшчэ здалёк угледзіў яго Айцец, пазнаў свайго роднага сына, выйшаў з вялікаю радасьцяю насустрэчу яму, не пазволіў нават яму многа гаварыць, **„кінуўся яму на шыю і цалаваў яго“** (Л. 15, 20). Для выяўленьня свае радасьці, казаў справіць вялікую гасьціну, бо сын яго быў памёршы і ад'жыў.

Вось прыклад міласьці Божае, таксама і Айцец наш нябесны гатоў прыняць кожнага грэшніка, калі той шчыра пакутуе за свае грахі, калі добрую адбудзе споведзь.

Каб споведзь была добраю, што трэба выпаўніць?

Трэба выпаўніць тое самае, што зрабіў блудны сын, трэба выпаўніць пяць варункаў.

Перш-на перш блудны сын апамятаўся, падумаў ды добра ацаніў стан свае душы. І мы таксама павінны прыпомніць свае грахі перад споведзяю, павінны добра пазнаць стан свае душы, бо інакш не дамо сябе пазнаць духаўніку.

Пазнаўшы сябе ды свае грахі, мы павінны пачуць у сэрцы сваім жаль, нейкі сум, нашто мы так зрабілі, абразілі, вялікую прыкрасьць зрабілі нашаму найлепшаму айцу. Мы павінны зразумець сваю памылку, што зрабілі дрэнна.

Калі мы сумуем дзеля нашых грахоў ды ганім сябе, тады выплывае з нашага сэрца шчырая пастанова больш не грашыць, не вяртацца да даўнейшых грахоў.

Вось гэтыя тры варункі абавязкава павінны папярэджваць споведзь. Мы павінны пачуць адразу да граху і толькі з такім намерам маем сказаць на споведзі свае грахі, каб больш ужо гэткіх грахоў не паўтараць.

Гэтак, адпаведна настроіўшы душу, падыходзьма да сьвяшчэньніка, што замяшчае самога Бога ды перад ім, як перад заступнікам Бога, шчыра прызнаймася да сваіх грахоў. Чым больш будзе шчырасьці, тым лепшая будзе з яе карысьць. Вельмі неразумна зрабіў-бы хворы, калі-б прыйшоў да доктара ды затаіў перад ім сваю хваробу, так сама і на споведзі трэба адкрыць раны свае душы, а Лекар Нябесны вылячыць яе праз свайго слугу-сьвяшчэньніка.

Аднаго разу пайшлі мужчыны да споведзі. Пасьля споведзі выйшлі сабе на вуліцу, закурылі ды завялі гутарку.

Адзін з сялян кажа:

— А ўсё-ж такі ашукаў я бацюшку, не сказаў яму праўды.

— Эх ты, дурны ды дурная твая галава, — адказвае другі, — дык нашто-ж ты хадзіў да споведзі? Сам сябе ашукаў, а Бога не ашукаеш.

— Праўду сусед кажа, — падтрымалі другія — лепей ляжаў-бы на печы, менш было б абразы Божае.

Зразумеў аднак-жа хоць і ня вельмі разумны чалавек, што дрэнна зрабіў, найшоў зараз-жа да сьвяшчэньніка ды прызнаўся ў сваёй няшчырасьці і такім чынам паправіў сваю памылку.

Пасьля споведзі застаецца выпаўніць невялікую эпітымію (пакуту) і перамяніць сваё жыцьцё.

Блудны сын ужо не пакідаў больш бацькаўскага дому, дзе так жылося шчасьліва. Таксама і кожны з нас, пасьля шчырай споведзі, хай не вяртенцца да сваіх даўнейшых грахоў, да сваіх дрэнных прывычак.

З вялікай радасьцяю прыняў айцец да свае хаты блуднага сына, казаў закалоць адкормленае цялё і выправіў вя-

лікую гасьціну; таксама вялікая радасьць будзе з навярненьня аднаго грэшніка, большая як з 99 непатрабуючых пакуты.

Вялікая радасьць загасьціць у сэрцы і самога навернёнага грэшніка: запануе ў ім супакой сумленьня ды можа спадзявацца шчасьця вечнага па сьмерці. Амін.

*а. Антоні.*

---

а. Я. Урбан.

# Папа і „Папы“.

60 гадоў назад вучоны італьянскі барнабіт а. Тондіні-Кварэнгі напісаў кнігу пад назовам: „Папа рымскі і папы ўсходняе Царквы“, якая пасьля перакладзена была на расейскую мову (выдана ў Гэрдэра ў Фрыбургу 1899). Гэты вучоны манах выказваў, як усходняе праваслаўе, адкідаючы папскае пяршынство, канчае тым, што на практыцы стварае гэтулькі „папаў“, колькі ёсьць аўтакэфальных праваслаўных Цэркваў, пярэчачы гэтым самым сваёй уласнай тэорыі аб роўнасьці ўсіх япіскапаў.

У некаторых з гэтых Цэркваў прэрогатывы папы ня ўтрымаліся нават пры япіскапаце, але апынуліся ў руках сьвецкіх уладароў. Напрыклад, у царскай Расеі крыніцаю царкоўнае ўлады, юрысдыкцыі, быў монарх, які кіраваў Царквою праз пасярэдніцтва ўтворанага Пётрай Вялікім Найсьвяцейшага Сыноду. У законадаўчых актах, як указ цара Паўла з 1797 г. аб насьледзтве пасаду, расейскі цар проста тытулуецца „галавою Царквы“, які тытул гэтак пужае праваслаўных, калі ўжываецца каталікамі ў адношаньні да Папы. Расейская Царква ніколі не адважылася на пратэст проці гэтага „цэзарапапізму“ імпэратараў. Не адважваюцца на ніякі пратэст таксама і Цэрквы іншых праваслаўных краёў, дзе найвышэйшаю законадаўчаю і адміністрацыйнаю інстанцыяй зьяўляюцца ўладары, а ў пэўнай меры нават і ўстановы рэспубліканскія. Знаходзяцца каноністы, якім быў у Расеі праф. М. Сувораў, якія тэорэтычна ўгрунтоўваюць гэтую найвышэйшую ўладу праваслаўных уладароў у Царкве. Прыпісваюць ім блізка што тыя самыя прэрогатывы, якія каталіцкі догмат прызнае Япіскапу Рымскаму, з выняткам толькі права выдаваньня непамыльных догматычных азначэньняў. Расейскі цар зацьвярджаў нават канонізацыю сьвятых.

Пасьля сусьветнае вайны лік „папаў“ праваслаўнае Царквы значна павялічыўся, бо павялічылася колькасьць царкоўных аўтакэфаліяў і аўтаноміяў. У некаторых краёх (як і ў нас у Польшчы) аўтакэфаліі звольніліся ад сваіх „галоваў“ у царскіх каронах, хоць у запраўднасьці нідзе ня здолелі ўсамастойніцца ад дзяржаўных уладаў. Аб расейскай Царкве найлепшыя сыны яе цьвярдзілі, што ад часоў Пётры I знаходзіцца яна ў паралюшы; тое самае з большаю ці меншаю правільнасьцю, — няважна, якая ступень гэтае правільнасьці, — можна сказаць і аб кожнай праваслаўнай Царкве ў нашыя часы, бо ўсе гэтыя Цэрквы, у большай ці меншай меры, зьяўляюцца змушанымі дзяліцца сваёю ўладаю з уладамі сьвецкімі. Зьяўляюцца яны „аўтакэфальнымі“, дaслоўна — самагаловымі, у адношаньні да іншых „братніх“ Цэркваў, але не ў адношаньні да дзяржаўных арганізацыяў. Маюць аўтакэфалію вонкавую, ня маюць поўнае аўтакэфаліі ўнутранае. Гэтым моцна розьняцца гэтыя ўсходнія „папствачкі“ ад папства рымскага.

Ёсьць адна праява папскае ўлады, да якое значна часьцей удаюцца малыя ўсходнія „папы“, чымсь вялікі папа ў Рыме. Гэта ёсьць анафэмы ў адношаньні да япіскапаў, прынцыпова нібыто роўных паміж сабою.

Рымская экскомуніка з пункту гледжаньня каталіцкае догматыкі — рэч зусім зразумелая. Рымскі япіскап, як наступнік Князя Апосталаў сьв. Пётры, ёсьць відочным намесьнікам Хрыста, найвышэйшым пастырам усяе Царквы, наступнікам, айцом, але і судзьдзёю. З гэтага догмату вынікае, што, хто хоча быць добрым грамадзянінам царства Хрыстовага, той павінен быць у адзінстве з Папаю. У гэтым сэнсе маюць дaтарнаваньне словы аднаго з Айцоў Царквы: „Дзе Пётра, там і Царква“. Адлучэньне сябе, сьвядомае і дабравольнае, ад Пётры, „які жыве ў сваіх наступніках“ (словы сьв. Лявона папы) адрывае хрысьціяніна ад Хрыста. Адсячэньне каго-нібудзь ад адзінства папаю за якія-нібудзь віны мечам экскомунікі перацінае містычныя артэрыі, што злучаюць душу вінаватага з жыцьцядаўчаю крыніцаю ласкі. Праваслаўныя могуць не прызнаваць гэтае праўды, але ня могуць адмовіць ёй пасьлядоўнасьці ў цэласьці каталіцкае догматыкі.

Наколькі аднак-жа іначай выглядае справа, калі праваслаўныя япіскапы экскомунікуюцца ўзаемна! Бо на які-ж праваслаўны догмат могуць паклікацца, адлучаючы роўных сабе у прынцыпе братоў ад Царквы Хрыстовай? А экскомунікі гэтага роду вельмі часта ў праваслаўі ўжываюцца. Абмінаем ужо старыя часы. Абмінём экскомунікаваньне — важнае і дасюль — усяе Баўгарскае царквы патрыархам царгародзкім за тое, што і яна хацела быць кірованай на правох

аўтакэфаліі. Абмінём розныя анафэмы розных прэтэндэнтаў да аднае і тае самае катэдры, як гэта да нядаўнага часу было ў антыохійскім патрыярхаце. Маем бліжэйшыя прыклады. Расейская царква распадаецца на некалькі незалежных адна ад аднае арганізацыяў: на патрыяршую Царкву, на Сынодальную або Адраджэнчую Царкву, на Нацыянальную Царкву на Украіне; сама патрыяршая Царква расколваецца яшчэ на два кірункі: прыхільнікаў Пётры і Сяргея ды прыхільнікаў Грыгора. На эміграцыі паўстае Царква ў Срэмскіх Карлаўцах, што адмаўляе ў паслухмянасьці маскоўскаму патрыярху, але ад яе адрываецца Эўлёгі ў Парыжы, які чаргова таксама зрывае зносіны з Масквою, паддаючыся Канстантынопалю. Сьледам за гэтымі расколамі ідуць экскомунікі. Патрыярх Ціхан аддае анафэме „адраджэнцаў", адраджэнчы сынод праклінае патрыярха; Антоні Храпавіцкі з Карлаўцаў праклінае Эўлёгія, тое самае адносна яго робіць пасьля Сяргей — „насьледнік вартаўніка" маскоўскага патрыяршага пасаду. Польская аўтакэфалія экскомунікуе групу віленцаў, акія астаюцца вернымі маскоўскаму патрыярхату і Элеўфэрыю з Коўна і г. д. Кожная з гэтых анафэмаў прызнаецца аднымі братнімі цэрквамі і не прызнаецца другімі. Адраджэнчы маскоўскі сынод, пракляты патрыярхам, астаецца ў адзінстве з Канстантынопалем, парыскі Эўлёгі таксама. Баўгары, няпрызнаныя праваслаўнымі экумэнічным патрыярхатам, утрымліваюць зносіны з расейскімі Цэрквамі, як праклятымі гэтым патрыярхатам, так і непраклятымі. Кожны, хто праклінае другога, стараецца паставіць на яго месца свайго прыхільніка, адсюль у адных і тых самых мясцовасьцях паўстаюць арганізацыі, якія рывалізуюць і боруцца адна з аднэю. Гэтак у Заходняй Эўропе ёсьць Эўлёгіянцы, Антоніянцы, Элеўфэрыянцы, ці як там яшчэ назваць іх. Падобнае зьявішча бачым у Паўночнай Амэрыцы і яшчэ дзе-нібудзь.

Што значаць усе гэтыя экскомунікі, а ўзапраўды, чым яны маюць быць у замерах тых, хто імі карыстаецца?

Можна было-б іх зразумець, калі-б яны значылі толькі тое, што нейкія япіскапы, ня могучы дайсьці да паразуменьня ў пэўных справах ці тэорэтычных пытаньнях, ды ня маючы вышэйшае ўлады, якая спрэчку іх рассудзіла-б, парываюць узаемныя адносіны, бо лепш мо' зусім ня гутарыць, як сварыцца.

Але-ж праваслаўныя япіскапы, кідаючы на братоў сваіх экскомунікі, хочуць дасягнуць гэтым чагосьці большага. Хопіць прачытаць адносныя акты. У іх абвяшчаецца, што гэты ці той япіскап адлучваецца ад Хрыстовае царквы, што губляе ласку япіскапства, што яго понтыфікальныя дзейнічаньні адсюль будуць няважнымі, сьвятакрадны́мі, пазбаў-

ленымі Божае ласкі, што праз гэта яго ранейшыя духоўнікі і міране яго епархіі звальняюцца ад паслухмянасьці адносна да яго, калі-ж і надалей застануцца яму паслухмянымі, дык і яны падлягаюць таму-ж асуду і перастануць чэрпаць ласкі з Таінстваў Царквы. Кожны гэткі праваслаўны іерарх, праклінаючы свайго субрата, кажа гэтым дзеяньнем: хто не са мною, той ня з Хрыстом! Ці-ж гэта не узурпацыя прэрогатывы, якая становіцца каменем абразы для праваслаўных, калі ўжываная бывае Рымам?

Які-ж яшчэ ёсьць рэзультат гэтага тварэньня гэтулькіх „папаў“ у праваслаўі? Вось-жа такі, што невядома ўжо, дзе гэтае праваслаўе знаходзіцца. Бо-ж з натуры царкоўнай анафэмы, — таксама і ў разуменьні праваслаўных, — вынікае„ што ня толькі беспасярэдня ёй падданыя, але і ўсе, хто з праклятымі ў сьвятых справах зносіцца, ўпадаюць у экскомуніку і губляюць жыцьцядаўчыя ласкі містычнага Цела Хрыстовага. Пытаемся: ці ёсьць хоць адна аўтакэфалія, хоць адзін праваслаўны япіскап, які або сам не знаходзіцца ў схізме з іншымі, або прынамсі ня зносіцца з гэткімі, якія іншымі лічацца за схізматыкаў? Дзеля гэтага зразумелым робіцца сумнае ўздыхненьне Мікалая Бердзяева. Гэты вядомы філёзоф і прафэсар праваслаўнага багаслоўскага Інстытуту ў Парыжы, якраз па прычыне гэтых іерархічных спрэчак і экскомунікаў у праваслаўі, сказаў гэткія словы: „Мець аднаго абсолютнага папу над сабою, гэта ўжо даволі цяжка, але неяк можна вытрымаць, але мець дваццаць чатырох папаў — гэта значыць хіба быць у вар'яцкім доме!“.

Ці-ж ня варта, каб і нашыя праваслаўныя ўважней задумаліся над гэтымі словамі, а вярней над палажэньнем праваслаўя, выраўшым гэтыя словы з вуснаў выдатнага філёзофа? Можа яны прыйшлі б да перакананьня, што з хаосу, выкліканага існаваньнем грамады „папаў“, можна выбрысьці толькі праз тую браму, якая вядзе ў Сталіцу Пётры, пастыра ўсіх авечак і баранчыкаў Хрыстовых.

(„Oriens“).

# Апошнія шлюбы.

(*Новэлька*).

Васеньняя ноч мокрая кастрычніцкая цемра...

Праз далёкія разлогі пад'яворскіх палёў, валакліся шэрыя, марготныя імглы; змоклым, сьлізкім цалуном завісьлі над пусткамі ніваў, парваных разьліўшымся ручаём; то зноў здавалася закрыць хацелі сваім грабавым пакрывалам лугі, агалеўшыя дрэвы і езуіцкую калегію.

Раптам зароў віхор, прытоены да часу недзе ў горных далінах і цяжкім краплістым дажджом у нязвычайна дзікім размаху забубнеў па манастырскіх мурох. А яны, уросшы глыбока ў зямлю, стаялі непарушныя, як нейкая вялізарная скала ў баі з пярунамі, і толькі глухім адказалі рэхам. А вецер увесь час выў дзіка, сьвістаў страшэнна і жаласна плакаў, як-бы якая замагільная мара. А над гэтым усім, крыху вышэй, ішла дзіўная сума кананьня, цягнулі доўгія, цяжкія і працяжныя ўздыханьні, ішоў жаль, боль і сьмерць.

Айцец Яроцкі, малады езуіт, будучы на трэцяй прабацыі, кленчыў у сваей келы і горача маліўся да расьпятага на крыжы Хрыста. Перад яго вачыма стаяла панурая, грозная мара касаты закону. Страшная рэха касацыйнага Breve званіла ў вушох, давіла грудзі, разрывала сэрца і да апошняй глыбіні разьдзірала яго душу.

А ён маліўся:

Страх мяне і граза агарняе, Хрысьце!

Успомню мінулае і робіцца сумна...

Падумаю аб заўтры, ах! яшчэ сумней!

Пагляджу ў неба і цяжкія я бачу там хмары, і боль сьціскае мне сэрца, а найбалючай раніць мне душу, ах тое страшнае „Dominus ac Redemptor"... Холадна мне, цёмна, нязносна. о, Хрысьце...

Ізноў цяжкое маўчаньне і балючае душы змаганьне.

Бліснула сьвятло лятарні, паплылі мігатлівыя хвалі на расьпятага Хрыста і на вернага сына закону.

А ён маліўся...

Я Твой. о Хрысьце, навекі. Мяне нішто ад Цябе не адарве... Тут змоўк, бо сьлёзы здушылі голас.

Устаў і ў глыбокую пагрузіўся задуму.

„Dominus ac Redemptor" званіла бязьлітасна ў яго вушох і глухім сваім рэхам разрывала душу і сэрца, а так балюча, што застагнаў з болю і сьлёзы сьветлыя сплылі па яго шчоках.

Вырвалі мне Матку... Ах маю найдаражэйшую Матку! Але ня выдралі мне Яе з душы і ня выдзяруць ніколі! Не, не... ня вырвуць з сэрца... Ніколі!..

Над гробам Маткі, над Яе грузамі я плакаць буду праз

усе хвіліны гаротнага, вандроўнага жыцьця, але астануся ёй сынам верным, як яна была мне вернай Маткай аж да канца.

О, Матка мая... Закон мой!.. Я навекі сын, я навекі Твой.

Ізноў хадзіў у вялікай задуме, важачы рашучыя і глыбокія думкі. Затрымліваўся, каб углядзецца ў расьпятага на крыжы Хрыста, ізноў адходзіў і прыкладаў да халоднага муру разгарачаную галаву, а руку прыціскаў да грудзей, каб устрымаць ад страшнага стукаценьня сэрца і паўтараў няўстанна: я навекі Твой...

Прыціхла нарэшце грозная бура, сканалі распутаныя стыхіі, а бледнае сьвятло месяца спакойна рьзьлілося па цёмных змроках ночы. Гадзіньнік на касьцельнай вежы ўжо выбіў поўнач, недзе здалёка з-пад гарадзкіх стрэхаў даляталі водгаласы трубаў начных старажоў. Ізноў грабавая ціша, толькі ад заходу вецер зазвоніць часам ў малыя шыбы.

Тымчасам Айцец Яроцкі пакінуў сваю келью і праз доўгія глухія калідоры сьпяшыў у царкву. У аднэй руцэ трымаў лятарню, а ў другой кніжачку рэгулаў. Увайшоў у закрыстыю, але да царквы ня мог, бо дзьверы былі на замок замкнуты, а побач на чорна-жоўтым шнурку аж дзьве віселі чырвоныя, аўстрыяцкія пячаці. Ціхое ўздыханьне вырвалася з грудзей беднага манаха і адбілася сумным водгаласам аб глухія сьцены закрыстыі.

Праз вітраж вокнаў прыглядаўся маркотна месяц, кідаючы на мармуровую пасаду нейкія нявыразныя ўзоры, падобныя да тых, што цямнеліся ў вокнах.

Тры вялікія ўкосныя стаўпы сьвятла іскрыліся дробным пылком, ператыканыя дылікатнымі цясёмкамі ценяў.

У канцы закрыстыі на мармуровым аўтары стаяў сьв. Ігнацы з кнігай канстытуцыяў у руцэ. Нейкі цень суму ўпаў на Яго аблічча, а Яго айцоўская вока здавалася з болем паглядала на запячатаваныя скрыні забраных рэчаў і пасуды царкоўнае, на стосы вельмі каштоўных абразоў і пустыя шафы.

Учора была тут камісія аўстрыяцкага ўраду і ўсё, што толькі мела якую-небудзь вартасьць, спакавала і запячатавала. Сягоньня гэта ўсё ляжыць ля Яго ног, як-бы руіны закону.

Айцец Яроцкі паглядзеў на свайго Патрыарха і душу яго сьціснула жаласьць на від дарагога Айца. Хацеў прыступіць бліжэй і кінуцца да Яго ног, выплакаць сэрца і адкрыць усю тайну сваей душы, але праз стосы ўложаных скрыняў ня мог туды дастацца. Затым кідаецца на зямлю на месцы і прыкладае распаленае чало да халоднага мармуру. І так сьцішаецца ў душы і пагружаецца ў глыбокую задуму.

Тымчасам прыступілі да яго сьветлыя духі і яго браты з трыумфуючага Таварыства, каб крапіць яго мужнасьць. А ён гэткім спосабам гатовіўся да адчытаньня формулы прысягі апошніх шлюбаў, не дана яму было цешыцца, так як многім другім, з нявымоўнае ласкі цэлага з Богам і Таварыствам злучэньня па ўсе дні жыцьця свайго праз апошнія абеты, то жадаў хаця першыя аднавіць, каб рыцарскую сваю душу яшчэ раз ахвяраваць Богу раней, чымсь на вандроўныя пусьціцца лёсы.

Апошні раз прысягае Богу ў законных мурох: Убогасьць, Чыстату і Послух. Апошні раз у законнай вопратцы паўтарае дрыжачым голасам: „Omnipotens, sempiterne Deus"... І разьліўся пах ахвяры раней па палёх і лугох роднай старонкі, а пасьля пачаў узносіцца штораз дык вышэй і вышэй, аж адбіўся сьвятым успамінам аб брамы неба і спачыў ля пасаду Ўсявышняга. А духі сьвятыя трыумфу песьню пяялі і тэй песьні ўсьціскам жагналі свайго Брата, а ён маліўся, і сьлёзы ўдзячныя, чыстыя, як у гэту мінуту яго душа і сэрца, сьцякалі сьветлымі ручаямі па гарачых шчоках. А Бог ахвотна прыняў ахвяру над гробам Маткі, на руінах і попелішчы закону ад вернага Яе сына.

II.

І пашоў да чужых. Ён адзін ішоў праз буры, брыў праз завеі, праз пажарышчы і руіны, над каторымі вецер жаласна высьпёўваў ерэміяды. Дух сьмерці, глухія стогны кананьня і адна вялікая магіла над законам і над народам.

А ён ішоў пад дым і іскры пажараў, пад балючы крык апошняй скаргі, над каторай узнасілася несьмяротная песьня надзеі. Так пяяла сэрца і ў нашага выгнанца і расла ў ім запраўды надзея лепшай будучыні, шчасьлівейшага заўтра. У гэтай думцы дасьпявала кожная раньняя зорка, кожны ўдар сэрца і кожнае захопленьне душы.

Так плылі гады, а салодкае чаканьне ясьнейшых сьвітаньняў асталося толькі незьдзейсьняльнаю надзеяй. З ёю ішоў ён праз жыцьцё цьвёрдае і знояў поўнае, з ёю нёс свой крыж на дзень кожны, з ёю нарэшце прывітаў сваю апошнюю хвіліну жыцьця.

Было гэта ў позную восень на плебаніі ў Драгабычы. Сьнежнёвае сонца слала апошнія свае праменьні на скованую лёдам зямельку. Яго слабыя блескі праз дробныя шыбы даcталіся і ў маленькую хаціну плебаніі. На скромным ложку ляжаў хворы 70-летні старычок.

На яго сівую галаву падалі тыя прадвячорныя асеньнія блескі, ласкава туліліся да яго цяжка дыхаўшых грудзей, да сьпечаных вуснаў, гладзілі пааранае чало і горам паморшчаны твар. У ясных, толькі крыху затуманеных яго вачох стаяў трошачкі блішчучы крыжык, каторы дрыжачыя

рукі з высіленьнем паднімалі ўгару. Нарэшце вырвалася з яго грудзей працяжнае ўздыханьне: незадоўга ўжо выб'е мая апошняя гадзіна. І душа мая пакіне гэтае цела і горкую сьлёзаў даліну. І пайду я да Цябе, Хрысьце, я нягодны... я вандроўнік... выгнанец. Тут два кraплістыя ручаі пакаціліся па высахшых шчоках старыка, а сінія напалавіну мёртвыя вусны шапталі: але памру Езуітам, ня ў кругу законных Братоў, не ў манастырскіх мурох, не на руках свае наймілейшае Маткі, але...

І тут ізноў плач, жаль і сьлёзы здушылі ў грудзёх далейшыя словы.

Праз мінуту змоўк і спакойна чакаў сьвяшчэньніка, каторы меў яго прыгатовіць на апошнюю дарогу. А тымчасам перад вачыма яго душы чародна праходзілі абразы цэлага жыцьця.

15-летнім хлопцам паступіў у закон, апрануў так пажаданую вопратку сыноў Лёёлі, такі быў шчасьлівы, што гэтага шчасьця не замяніў-бы на ўсе скарбы сьвету. Двугадовы навіцыят скончыў у Астрогу і там злажыў першыя законныя шлюбы. А далей доўгі час навук. Рэторыка і трохгадовы курс філёзофіі ў Крэменцы... Чатырохгадовы перарыў запаўняе вучыцельскаю і выхаваўчаю працаю ў Станіславове, а пасьля ў Львове; і нарэшце так пажаданая ў калегіі люблінскай тэолёгія.

Усё гэта надта-ж жыва стала яму прад вачыма, так што здаваўся быць усяму гэтаму прытомным. Аблічча старычка прыбрала выгляд поўны дзіўнае вясёласьці і шчасьця. Але не надоўга. Бо што-ж далей?... Далей, ах, нядоўга, тая няшчасная кастрычніцкая восень.

І тут абарваў, бо горкае разжаленьне агарнула яго нанова. І ня мог ужо супакоіцца, толькі вочы поўныя сьлёз спыніліся на крыжыку, а вусны вышапталі з запалам: „Fiat voluntas tua“.

Страшэнная бура кінула яго на чужыну.

З Братамі, як сам выгнанымі, працаваў праз чатырнаццаць гадоў у Перамышлі некалі ў езуіцкім калегіюме і вучыў там моладзь больш за ўсё любіць Бога і родны край, за што моладзь яго вельмі любіла. Пасьля назначылі яго ў Драгабычы настаяцелем.

Па 13 гадох цяжкай душпастырскай працы чакаў цяпер апошняй хвіліны і аднэй толькі ў Бога жадаў заплаты: належаць у небе да Таварыства...

Сонца шыбка каціласа па небе, пасылаючы зямельцы апошнія разьвітальныя праменьні і ўжо амаль зусім зайшло, калі прышоў сьвяшчэньнік з Эўхарыстыяй, з той апошняй на зямельцы пацехай. „Confiteor“ з цэлага жыцьця і апошняе: Domine non sum dignus“...

Настала ўрачыстая ціша.

Адзін толькі гадзіньнік галасьней—здавалася—як звычайна лічыў шыбка ўцякаўшыя мінуты і мамэнтным цікальнем перарываў натхнёную цішу.

На стале пры самым ложку гарэлі дзьве сьвечкі сьвятлом ясным, здольным рассьвяціць найдалейшыя і найцямнейшыя сцэны з чалавечага жыцьця, І цяпер мігатлівыя іх блескі разьліваліся навакола, поўныя таёмнасьці. Асьвяцілі раней Эўхарыстычныя постаці Хрыста, а пасьля бледны твар хворага сьвяшчэньніка, сагнутага над ложам. Праз мінуту сьвяшчэньнік выпрастаўся, ўзяў у рукі белую гостыю і сярод над'земнай, урачыстай цішы разьляглося: „Ecce Agnus Dei". Ізноў сьвяшчэньнік прыступіў крыху бліжэй да ложа хворага, каб можна было канаючаму падаць „Wiatyk" на дарогу вечнасьці. У гэту хвіліну з вуснаў старыка вырваліся самі праз сябе словы, каторымі кожнага дня прывык быў паўтараць зложаную калісь Богу ахвяру: „Omnipotens, sempiterne Deus". Сьвяшчэньнік з Гостыяй паднятай угару пачакаў на апошнія словы формулы шлюбнай, па каторых падаў уміраючаму Хрыста. Тымчасам арамат ахвяры, падобна як у пустой закрыстыі перад 27 гадамі разьліўся падобна да яснага нябеснага воблака, акружыў Айца Яроцкага душу чыстую і паплыў штораз вышэй, аж да Трону Бога, да сваіх дарагіх братоў і Сьв. Айца Ігнацыя. За пару хвілін званы царкоўныя аглашалі сьвету жаласным гукам скон так улюблёнага настаяцеля з Драгабычы, былага езуіта. Заснуў у абняцьцях Ісуса з крыжыкам навіцыяцкім і кніжачкай законных рэгул у руках.

# Наш адказ.

Даўно ўжо ня пісаў я нашага адказу, а гэта дзеля таго, што ня было напасьцяў з боку нашых няпрыхільнікаў, ня было на што адказваць.

Варшаўскае „Слово" ў № 1 (212) у кароценькім артыкуле „По христіански-ли"? — ссылаючыся на газэты (якія— ня піша) паўтарае выдумку, што Ватыкан закупіў на дванаццаць мільёнаў злотых акцыяў італьянскага таварыства, якое займаецца вырабам ваеннага хімічнага матар'ялу, асабліва газаў. З гэтага „Слово" робіць вывад, — вось бачыце чым займаецца заступнік Хрыста на зямлі, прыгатаўляе матар'ял да страшэннае вайны.

Ці гэта праўда? Праўды тут няма ані званьня, усё гэта выдумка ворагаў Царквы Хрыстовай.

Пасьля выясьненьня справы ў адказ спытаюся я ў паноў з рэдакцыі „Слова": Ці пахрысьціянску выдумваць нябывалыя рэчы або выдумкі паўтараць на Першасьвяшчэньніка? Някультурнае варшаўскае „Слово" вельмі любіць ву-

чыць нават іх аб гэтым ня просячых, вельмі любіць даваць навукі аб хрысьціянскай любові ды маральнасьці. Дзякуем за навуку, але нам здаецца, што лепш было-б, каб „Слова“ на сваё маральнае аблічча больш увагі зьвярнула: „Лекару, вылячыся сам.“

*Злучэнец.*

# Папская Усходняя Сэмінарыя ў Дубне.

8.І.1934 г. Папская Ўсходняя Сэмінарыя ў Дубне першы раз шырока адчыніла свае брамы, выпушчаючы ў выкананьне запавецзі Госпада нашага Ісуса Хрыста першых сваіх гадунцоў, новых работнікаў на ніву Госпадаву, новых барацьбітаў — пастыраў Хрыстовых дзеля вялікае сьвятое працы унійнае.

8.І. у сьвята Сабору Прасьвятой Багародзіцы ўрачыстае багаслужэньне адправіў Пр. Япіскап-Візытатар Мікалай Чарнэцкі, у часе якога быў высьвячаны на чытальніка і іподыякана А. Шарэйка з Ваўкавыска, назначаны ў Віленскую епархію.

9.І. у аўторак таксама адбылася ў Дубненскай царкве ўрачыстая архірэйская служба, у часе якое А. Шарэйка быў высьвячаны на дыякана, гадунцы: Гермацюк і Філіповіч на чытальнікаў і іподыяканаў, а Арцем'еў на іподыякана. Абодва гэтыя дні апальваная звычайна Дубненская царква, дзе адбываліся рукапалажэньні, была перапоўнена народам да апошняй магчымасьці (больш як 300 чалавек).

Вось некаторыя ведамасьці аб кожным з новавысьвячаных:

А. Гермацюк з г. Львова, з паходжаньня лаціньнік, быў у працягу 3-х гадоў на багаслоўскім факультэце ў Вільні і быў гадунцом Віленскае Духоўнае Сэмінарыі, пасьля старшым вучыцелем народнае школы. Пераканаўшыся на гэтай пасадзе, што праваслаўнае насяленьне, перш за ўсё, мае патрэбу праўдзівае веры, рашыў прыняць духоўны сан і паступіў у Папскую Ўсходнюю Сэмінарыю ў Дубне на Валыні, дзе рыхтаваўся да місіянэрскае душпастырскае працы ў Віленскай епархіі. За гэты час вывучыў ён таксама расейскую і беларускую мову.

Філіповіч з г. Вялейкі, б. праваслаўны, скончыў пяць гадоў назад праваславную духоўную сэмінарыю ў Вільні, пасьля чаго прылучыўся да Сусьветнае Царквы і прайшоў новы курс каталіцкага багаслоўя сьпярша ў Любліне, а пасьля ў Дубне. На асабістую просьбу празначаны працаваць у люблінскай епархіі.

Гермацюк і Шарэйка вучыліся на кошт Я. Пр. Віленскага Архіяпіскапа Р. Ялбжыкоўскага, а Філіповіч на кошт Я. Пр. Люблінскага Япіскапа М. Фульмана.



Выхаванкі першага выпуску Папскай Усходняй Дубненскай Сэмінарыі на чале з Е. Пр. Ул. Мікалаем.



Першы выпуск у Дубненскай Усходняй Папскай Сэмінарыі. Мамэнт пасьвячэньня.

Арцем'еў, б. праваслаўны, яшчэ да вайны скончыў астраханскую праваслаўную сэмінарыю і С.-Пецярбурскую праваслаўную духоўную акадэмію. Пасьля вайны служыў

пэўны час прафэсарам віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі. Прылучыўшыся да Сусьветнае Царквы падгатаўляўся да прынятку сьвяшчэнства спачатку сам, а пасьля, на жаданьне Я. Пр. Архіяпіскапа Ялбжыкоўскага, пасланы быў для дадатковай падгатоўкі ў Дубно, дзе прабыў 7 месяцаў і здаў экзамены.

10 студня 1934 г. у сэмінарскай часоўні ў Дубне іподыякан Філіповіч быў узьведзены ў сан дыякана.

12 студня ў той самай часоўні атрымаў дыяканскі сан В. Арцем'еў.

14 студня ў дубненскай царкве, пры вялікай грамадзе народу, узьведзены быў у дыяканскі сан Германцюк.

Рэдакцыя „Да Злучэньня,“ у пачуцьці сардэчнай радасьці з павялічэньня ліку работнікаў на ніве Госпадавай, шле ім гарачыя пажаданьні ўсяго найлепшага на новым шляху жыцьця.

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Варшава. 1200 разводаў за 600.000 злотых у праваслаўнай кансысторыі.** У канцы першае паловы мінулага месяца студня пракурорскія ўлады двукротна зьявіліся ў будынак праваслаўнае кансысторыі ў Варшаве і зрабілі вобыск, у рэзультаце якога апячатавалі 1.100 актаў справаў аб разводах. Як піша „Kurjer Polski,“ сьледзтва, ведзенае пад кіраваньнем падпракурора Міссуны, устанавіла, што ад 1931 г. варшаўская кансысторыя дала **каля 1.200 разводаў.** За кожны развод брана было 500 злотых, гэтакім чынам даход кансысторыі ад гэтых справаў даў 600.000 злотых. Значыцца, ў сярэднім, кансысторыя зарабляла 25.000 злотых у месяц, вядучы бяспраўную працэдуру разводаў. Як падае тая-ж газэта сьледзтва ў гэтай сэнсацыйнай справе расьцягнена будзе на ўсе праваслаўныя кансысторыі, ў Польшчы, якія, за прыкладам варшаўскае кансысторыі, рабілі разводы. Асабліва датычыць гэта віленскае праваслаўнае кансысторыі. У рэзультаце сьледзтва вінаватыя будуць пастаўлены ў стан абвінавачаньня з арт. 286 К.К, за **перавышэньне ўрадовае ўлады са шкодаю для публічнага інтарэсу.** Артыкул гэты пагражае караю **да 5-ёх гадоў астрогу,** а ў выпадку, калі дзеяньне мела на мэце матар'яльную карысьць асабістую або для трэцяе асобы, прадбачыць **кару да 10 гадоў.** У стан абвінавачаньня пастаўлена будзе 5 япіскапаў праваслаўнае царквы, якія, як начальнікі кансысторыяў, адказваюць за бяспраўныя практыкі.

**Луцк. (КАП). Каталіцкі месячнік для Чэхаў на Валын** У Празе пачаў выходзіць каталіцкі месячнік „Probuzeni,

прызначаны для тае часьці чэскіх колёністых на Валыні, якія ў ліку каля 10-цёх тысяч ужо належаць да Каталіцкае Царквы.

На пачатку першага нумару „Probuzeni“ зьмешчаны партрэт Я. П. Япіскапа Луцкага д-ра А. Шэлёнжэка.

**Львоў. (КАП). Пераход украінскіх Эвангелікаў на унію.** „Діло“ за 12.I. с. г. зьмяшчае заяву 89-цёх жыхароў вёскі Гаўрылаўкі, надворненскага павету аб павароце на лона грэка-каталіцкае царквы. Карэспандэнт „Діла“ зазначае, што пад гэтаю заяваю падпісаліся ўсе эвангелікі в. Гаўрылаўкі.

**Варшава. (КАП). Пляны на Галіцыю праваслаўнае іерархіі.** Праваслаўны зьезд варшаўска-холмскае епархіі, які адбыўся ў Варшаве пад старшынством мітрапаліта Дзіанісія, займаўся таксама і справаю прапаганды праваслаўя сярод каталіцкага насяленьня абодвух абрадаў: лацінскага і грэка-каталіцкага. Паводле аблічэньня царкоўных кругоў колькасьць праваслаўных ува Усходняй Галіцыі, галоўным чынам на Лемкаўшчыне, даходзіць да 25 тысячаў. Пастаноўлена, каб мітрапаліт Дзіанісі зьвярнуўся да Ураду па згоду на назначэньне спэцыяльнага праваслаўнага япіскапа для Галіцыі з прабываньнем у Львове. Адначасна пастаноўлена запратэставаць проці унійнае акцыі на ўсходніх землях.

Як бачым, дык палітыка праваслаўнае Царквы ў незалежнай Польшчы ані на ёту не зьмянілася ад часоў вядомага Эўлёгія. Тыя самыя імкненьні да заўладаньня Львовам і ўтварэньня з Усходняе Галіцыі праваслаўна-расейскага Піэмонту.

Трэба помніць, што да вайны на абшары сяньняшняе Польшчы праваслаўных япіскапаў было напалавіну менш як цяпер, ня гледзячы на тое, што праваслаўнага насяленьня было куды больш, бяручы пад увагу вялікі контынгент войска і тысячы ўрадоўцаў.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Рым.** Старшыня Камісіі „Pro Russia“ Я. Пр. Япіскап д'Эрбіні, па прычыне хваробы, пакінуў сваё становішча, пакуль што новы старшыня яшчэ не назначаны, часова выпаўняе абавязкі старшыні Монс. Тардіні.

**Рым.** Рэктар Калегіі для рускіх у Рыме („Russicum“) а. Яворка Т. І. пакінуў сваё становішча ды выяжджае ў Харбін, тымчасам а. Архімандрыт Ф. Абрантовіч прыяжджае ў Рым здаць справаздачу аб сваёй працы.

На месца а. Яворкі назначаны а. Піліп дэ-Рэжі. Духаўніком у „Russicum“ назначаны а. Леді.

# Календар

на м—ц Люты 1934 г.

**Стары стыль** | **Новы стыль**

| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i świata rymska-kat. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | Трыфона | 14 | S | **Papielec.** Walentaha |
| 2 | Ч | **Стрэценьне Госп.** | 15 | Č | Faustyna |
| 3 | П | Сымона і Ганны. | 16 | P | Juljana i Juljany |
| 4 | С | Сідара. Міколы. Кірылы | 17 | S | Juljana. Danata. Alaksieja |
| 5 | Н | **Загавіны.** Макара | 18 | N | **Symona. Maksima** |
| 6 | П | П. В. Посту. Марты і Мар. | 19 | P | Kanrada Zuzanny |
| 7 | А | Пархвена. Лукі | 20 | A | Lawona |
| 8 | С | Хведара. | 21 | S | *Suchi dzień.* Feliksa |
| 9 | Ч | Нікіфара | 22 | Č | Katedry św. Piotry |
| 10 | П | Прохара | 23 | P | *Suchi dzień.* Piotry. |
| 11 | С | Уласія | 24 | S | *Suchi dzień.* Macieja |
| 12 | Н | Вял. Абраза Божай Маці | 25 | N | **Wiktaryna. Zyhfryda** |
| 13 | П | Марцініяна | 26 | P | Wiktara. Alaksandra |
| 14 | А | Кірылы вучыц. Славян | 27 | A | Leanarda |
| 15 | С | Анісіма | 28 | S | Ramana. Makara |
| | | | | | SAKAWIK. |
| 16 | Ч | Памфіла | 1 | Č | Albina. Antanina |
| 17 | П | Тодара | 2 | P | Alony. Paŭła. Bazyla |
| 18 | С | Льва Папы Рым. | 3 | S | Kunehundy |
| 19 | Н | **Архіпа. Халімона** | 4 | N | **Kazimiera.** Lucaha |
| 20 | П | Льва. Агапона | 5 | P | Jana. Adryjana. |
| 21 | А | Цімахвея. | 6 | A | Wiktara i Wiktaryna |
| 22 | С | Аўгеньні | 7 | S | Tamaša z Akw. |
| 23 | Ч | Палікарпа. | 8 | Č | Jana Božaha |
| 24 | П | Знаход гал. Іоана Хрыс. | 9 | P | Franciški. Ryhora |
| 25 | С | Тараса | 10 | S | Sorak Mučanikaŭ. |
| 26 | Н | **Сэвасьцьяна** | 11 | N | Kanstantyna |
| 27 | П | Пракопа. | 12 | P | Ryhora Wialikaha |
| 28 | А | Васіля. | 13 | A | Krystyny. Ničyрara. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.